ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 12 жніўня 2000 года

№ 62 (8131)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 30 руб.

## ДОШКА ГОНАРУ
## перадавікоў на жніве-2000

### Экіпажы камбайнаў

*Мікалай Мікалаевіч* **Дрозд** *і Мікалай Іванавіч* **Белакурскі** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на Е-527 намалацілі* **895 тон збожжа.**

*Міхаіл Уладзіміравіч* **Вербенка** *і Аляксандр Яўгенавіч* **Іваноў** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на "Дон-1500" намалацілі* **716 тон збожжа.**

*Аляксандр Сяргеевіч* **Петранкоў** *і Аляксей Міхайлавіч* **Макаронак** *з СКП "Ніва" на "Дон-1500" намалацілі* **683 тоны збожжа.**

*Фёдар Рыгоравіч* **Петрусёў** *і Сяргей Яўгенавіч* **Максімаў** *з калгаса "Камуніст" на "Дон-1500" намалацілі* **430 тон збожжа.**

*Сяргей Лаўрынавіч* **Іваноў** *і Аляксандр Анатольевіч* **Міхалап** *з СКП "Чырвоны баец" на "Дон-1500" намалацілі* **417 тон збожжа.**

*Уладзімір Мікалаевіч* **Комар** *і Анатоль Васільевіч* **Вашукевіч** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на "Дон-1500" намалацілі* **373 тоны збожжа.**

*Уладзімір Ільіч* **Бычкоў** *і Васіль Васільевіч* **Буталенка** *з калгаса імя Дзяржынскага на "Дон-1500" намалацілі* **305 тон збожжа.**

*Уладзімір Алякеевіч* **Грамыка** *з сынам* **Канстанцінам** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на СК-5 "Ніва" намалацілі* **283 тоны збожжа.**

*Сцяпан Апанасавіч* **Стэльмакоў** *і Аляксандр Міхайлавіч* **Маісеенка** *з саўгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **268 тон збожжа.**

*Леанід Аляксандравіч* **Волкаў** *з калгаса імя Свярдлова на "Дон-1500" намалаціў* **220 тон збожжа.**

*Дзмітрый Міхайлавіч* **Ганчаронак** *і Валерый Сяргеевіч* **Іваноў** *з калгаса імя Кірава на "Дон-1500" намалацілі* **195 тон збожжа.**

*Аляксандр Еўдакімавіч* **Нікіфараў** *з сынам* **Аляксандрам** *з калгаса "Беларусь" на "Дон-1500" намалацілі* **190 тон збожжа.**

### На адвозцы

*Валерый Васільевіч* **Шчэрбіч** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **958 тон збожжа.**

*Андрэй Генадзьевіч* **Ерычаў** *з калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага на КамАЗе перавёз ад камбайнаў* **940 тон збожжа.**

*Аляксандр Рыгоравіч* **Ермалаеў** *з СКП "Чырвоны баец" на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **573 тоны збожжа.**

*Васіль Іванавіч* **Архіпенка** *з СКП "Ніва" на КамАЗе даставіў на Бабруйскі КХП* **524 тоны збожжа.**

*Уладзімір Васільевіч* **Малахоўскі** *з СКП "Ніва" на ГАЗ-53Б перавёз ад камбайнаў* **479 тон збожжа.**

*Васіль Савельевіч* **Комар** *з калгаса імя Кірава на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **440 тон збожжа.**

*Уладзімір Уладзіміравіч* **Чарапуха** *з калгаса "ІІІ з'езд Саветаў" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **368 тон збожжа.**

*Пётр Анатольевіч* **Кучынскі** *з калгаса "Камуніст" на ГАЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **260 тон збожжа.**

*Васіль Савельевіч* **Белаглазаў** *з саўгаса імя Кірава на ЗІЛ-554 перавёз ад камбайнаў* **235 тон збожжа.**

*Сяргей Аляксандравіч* **Фірагін** *з калгаса імя Свярдлова на ЗІЛ-130 перавёз ад камбайнаў* **161 тону збожжа.**

*Валянцін Дзмітрыевіч* **Ермалаеў** *з калгаса "Беларусь" на САЗ-53 перавёз ад камбайнаў* **146 тон збожжа.**

### *ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ*
**аб ходзе ўборкі збожжавых і зернебабовых культур у гаспадарках раёна на 11 жніўня г.г.**

| Назва гаспадарак | Убрана ў % да пасеянага | Сярэдняя ўраджайн. ц/га | Прададз. дзярж. ў % да плана |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 65,2 | 44,8 | 57,3 |
| імя Дзяржынскага | 61,3 | 23,0 | 58,1 |
| с-с «Шыннік» | 59,0 | 14,6 | 101,0 |
| СКП «Чырвоны баец» | 56,5 | 36,2 | - |
| «ІІІ з'езд Саветаў» | 54,1 | 25,0 | 78,0 |
| СКП «Ніва» | 52,4 | 32,2 | 73,5 |
| імя Свярдлова | 49,5 | 10,5 | 38,2 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 49,0 | 25,2 | 26,1 |
| «Камуніст» | 46,9 | 23,8 | 35,0 |
| імя Калініна | 45,8 | 18,1 | 78,0 |
| с-с імя Кірава | 42,1 | 16,5 | 28,6 |
| імя Чапаева | 37,9 | 11,0 | 25,0 |
| імя Кірава | 36,9 | 22,6 | 26,6 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 36,1 | 14,2 | 51,3 |
| «Радзіма» | 35,1 | 29,3 | 29,9 |
| «Беларусь» | 33,9 | 15,3 | 56,3 |
| імя Ільіча | 16,7 | 11,6 | 33,3 |
| Усяго па раёне: | 46,8 | 26,0 | 44,7 |

**Ураджай-2000**



## ПОСПЕХ ВЫЗНАЧАЕЦЦА ЧАЛАВЕЧЫМ ФАКТАРАМ

Выдатны ўраджай паспеў на збожжавых палетках калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага. Убраць вырашчанае своечасова і якасна — задача працоўнага калектыву. А вось забяспечыць удзельнікаў жніва ўсім неабходным, арганізаваць працоўнае спаборніцтва і давесці да кожнага яго ўмовы, своечасова падводзіць вынікі і зрабіць працоўнае саперніцтва дзейсным сродкам павышэння эфектыўнасці работы — клопат прафсаюзнага камітэта. Свае задачы, як нельга лепш, разумее старшыня калгаснага прафкама Галіна Мікалаеўна Русецкая. Чалавек яна вопытны ў прафсаюзнай рабоце, ініцыятыўны і неабыякавы па характару. Усё гэта разам з надзейнай і адчувальнай падтрымкай кіраўніцтва гаспадаркі дае плён. Сёння калгас "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага — неаспрэчны лідэр раённага спаборніцтва на жніве-2000, лепшыя камбайнеры і вадзіцелі гаспадаркі ўпэўнена займаюць верхнія радкі раённай Дошкі гонару. І ва ўсім гэтым немалаважная заслуга прафсаюзнага камітэта, які загадзя распрацаваў і спланаваў сумесна з кіраўніцтвам і спецыялістамі калгаса ўвесь ход уборкі, прывёў у дзеянне знакаміты чалавечы фактар — калі ўвага і клопат да чалавека працы вяртаюцца высокімі вытворчымі паказчыкамі.

Яшчэ напачатку ўборачнай, калі ішла падрыхтоўка да гэтай галоўнай падзеі сельскагаспадарчага года, даводзіліся да ладу машыны, агрэгаты, у гаспадарцы адбыўся агульны сход усіх, маючых дачыненне да жніва: ад кіраўніцтва і галоўных спецыялістаў да рабочых уключна. Удзел у сходзе прымаў і старшыня райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу М.С.Худавец.

Перад прысутнымі выступілі: старшыня праўлення гаспадаркі В.М.Іваноў, які засяродзіў увагу на якасці вядзення ўборачнай і тым, што гэты фактар цесна ўвязаны з заработнай платай; галоўны аграном калгаса Ж.А.Камінская, якая паведаміла аб аб'ёмах работ і плошчах, адведзеных пад зерневыя культуры, парадку ўборкі; аб нормах выпрацоўкі і расцэнках, натураплаце прысутным расказаў галоўны эканаміст В.Н.Чубукоў; аб вядзенні ўліку зробленаму — галоўны бухгалтар К.І.Гаўрыленка; тэме дакладнага выканання правілаў бяспечнай работы прысвяціў сваё выступленне інжынер па тэхніцы бяспекі А.А.Стэльмак.

Грунтоўна і падрабязна з умовамі працоўнага спаборніцтва на жніве яго ўдзельнікаў пазнаёміла старшыня прафкама гаспадаркі Г.М.Русецкая. Распрацаваны яны былі сумесна з праўленнем і ўлічвалі недапрацоўкі папярэдніх гадоў, калі камбайнерамі ў пагоні за высокімі тэмпамі ўборачнай, гублялася якасць. Зараз усе фактары, як тэрміны, аб'ёмы, якасць, працоўная і выканальніцкая дысцыпліна, захаванне правілаў бяспекі ў час работы, эканомія гаруча-змазачных матэрыялаў і г.д. улічаны ўмовамі спаборніцтва. Яго вынікі падводзяцца кожны дзень. Гэта дазваляе кожнаму з удзельнікаў жніва мець поўную карціну таго, што адбываецца, карэкціраваць работу і дабівацца поспеху.

Для занятых на ўборцы ў калгасе "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага створаны ўсе неабходныя ўмовы: яны забяспечаны спецвопраткай, двухразовым бясплатным гарачым харчаваннем, камбайны ўкамплектаваны аптэчкамі, сродкамі пажаратушэння. Паклапаціліся камбайнеры і аб герметызацыі сваіх машын, каб пазбегнуць нават самых дробных страт. Дарэчы, перад выхадам у поле інжынернай службай быў праведзены дадатковы інструктаж механізатараў, праверана гатоўнасць машын.

Пачалося жніво прыгожа і святочна: у гаспадарцы стала добрай традыцыяй праводзіць зажынкі. Прафсаюзны камітэт сумесна з работнікамі мясцовага Дома культуры, пры ўдзеле самадзейных артыстаў з народнага ансамбля песні "Мілавіца" і харэаграфічнага калектыву "Малодушкі" прама ў полі правялі тэатралізаваны абрад першага снапа. Старшыня гаспадаркі В.М.Іваноў тройчы падкінуў яго ўверх і злавіў, жадаючы ўсім па 40 цэнтнераў ураджаю. Яго пажаданні споўніліся, і сёння рассветаўцы намалочваюць на круг звыш 44 цэнтнераў збожжа з гектара, а на ячменным полі ў 176 гектараў, што за вёскай Новыя Стаўпішчы, і таго больш — 55! І гэта толькі па папярэдніх прыкідках.

Спаборніцтва на жніве ў гаспадарцы пастаўлена так, што кожны яго ўдзельнік зацікаўлены ў рабоце без збояў і паломак, якаснай уборцы, высокіх намалотах. На час уборачнай для механізатараў і вадзіцеляў, астатніх удзельнікаў жніва аж да брыгадзіра ўведзены талоны якасці. У іх адлюстроўваюцца паказчыкі па ўсіх умовах спаборніцтва. Калі пры падвядзенні вынікаў у талонах не будзе ніводнага штрафнога бала, яго ўладальнік атрымлівае да 100 працэнтаў прэміяльных да зарплаты. Прадугледжаны і меры маральнага стымулявання. Праз некалькі дзён з пачатку жніва былі падведзены першапачатковыя вынікі, згодна іх вызначаны лідэры па відах работ і марках машын. Ім прама ў полі старшыня прафкама Г.М.Русецкая разам з галоўным аграномам, брыгадзірамі ўручыла грашовыя прэміі, падзячныя пісьмы ад праўлення гаспадаркі і прафкама, чырвоныя сцяжкі. Практыкуецца і рассылка падзячных пісьмаў самым стараннным работнікам на хатні адрас праз пошту: маўляў, няхай сям'я, атрымаўшы такі ліст, парадуецца за свайго мужа, брата ці бацьку.

Аб умовах спаборніцтва, мерах маральнага і матэрыяльнага стымулявання, расцэнках, нормах кожны механізатар ведае дакладна і можа, пры жаданні, падлічыць свой дзённы заробак, дзякуючы таму, што кожнаму экіпажу, а іх на жніве задзейнічана 16, была падрыхтавана і ўручана папка з поўным камплектам неабходных дакументаў. У гонар лепшых на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі ўздымаецца сцяг, іх прозвішчы занесены на раённую Дошку гонару.

Райкам прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу пільна сочыць за ходам раённага спаборніцтва. Ад імя раённага выканаўчага камітэта і райкама прафсаюза лідэрам спаборніцтва падрыхтаваны маляўнічыя падзячныя пісьмы. Іх прама ў полі лепшым камбайнерам і вадзіцелям калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага — М.М.Дразду і М.І.Белакурскаму (экіпаж Е-527, які намалаціў 807 тон збожжа), У.А.Грамыку і яго сыну Канстанціну, якія на СК-5 "Ніва" намалацілі 245 тон зерня, В.В.Шчэрбічу, перавёзшаму на КамАЗе 841 тону зерня і Г.А.Юркаўцу, перавёзшаму на ЗІЛ-130 780 тон, уручыў старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК М.С.Худавец.

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**



**На здымках:** ***старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК М.С.Худавец уручае падзячнае пісьмо перадавому экіпажу М.М.Дразда і М.І.Белакурскага, якіх віншуе галоўны аграном гаспадаркі Ж.А.Камінская; чырвоны сцяжок з рук старшыні прафкама калгаса Г.М.Русецкай — лепшаму вадзіцелю на адвозцы збожжа В.В.Шчэрбічу.***

**Фота Івана Лукановіча.**

# Программа телевидения

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 14 августа

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00,15.00, 17.00, 19.00, 23.55** Новости. **8.00** Резонанс. **9.10** Потребительская корзина. **9.25** "Сегодня с вами". **9.50** Здоровье. **10.15** "Однажды летом". Музыкальная сказка. **10.40** Теленавигатор. **11.10** "Все мои дети". **11.55** "Судьба человека". **12.25** "Танго. Танго". **14.30** "Три истории с телефоном". Худ. фильм. **15.10** "Четыре танкиста и собака". **16.07** "А музыка звучит..." **16.37** Авто-парк. **16.47** Премьера песни. **17.10** Столица. **17.40** Док. фильм. **18.00** Сериал "Сити". **18.44** МСН. **19.15** Политические диалоги. **19.50** "Все мои дети". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Детектив "Альбина Аллигатор". **23.25** Третий тайм. **0.05** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**13.30** "Вместе". **14.00, 17.00, 23.10** Новости. **14.20** Мультсериал. **14.40** Звездный час. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.45** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** Клуб "Белый попугай". **18.15** Худ. фильм "Пароль знали двое". **20.00** Время. **20.45** "Тысячелетие". **21.40** В.Цой в фильме "Игла". **23.25** Паранормальные явления. Закрытое досье".

**РТР**

**7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.30** Семейные новости. **7.40, 8.20** Доброе утро, Россия. **8.15** Черным по белому. **8.35** Мультсериал. **9.00** "Мануэла". **10.35** "Санта-Барбара". **16.30** "Сам себе режиссер". **17.00** "Графиня де Монсоро". **18.00** "Комиссар Рекс". **19.30** Дежурная часть. **19.50** "История любви". **21.55** "Следствие ведут знатоки". **23.35** "Колизей".

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** Короткометражный худ. фильм. **12.15** Программа-призер "Красная книга". **12.30** "Штрафники". Док. фильм. Часть 2-я. **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Вместе с Фафалей. **14.20** Мультфильмы. **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.50** Кто мы? "Хроника смутного времени". **16.15** Магия Жизели.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**8.00** Астро-дайджест. **8.10** "Саманта". Телесериал. **9.00** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.25** "Марс атакует!" Комедия. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.20** Мультфильм. **17.30** "Путешественники во времени". Док. сериал. **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.00** Тяжелый день. **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Леди Макбет Мценского уезда". Худ. фильм. **22.20** Астро-дайджест. **22.25** "Идеальное преступление". Драма.

## ВТОРНИК, 15 августа

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.55** Новости. **8.10** Политические диалоги. **8.40** Потребительская корзина. **9.10** Мультсериал "КОАПП". **10.10** "На волне взаимопонимания". **11.10** "Все мои дети". **11.55** "Одиссея команды Кухто". **12.25** Третий тайм. **13.10** "Семь маленьких рассказов о первой любви". Худ. фильм. **14.15** Туробъектив. **15.15** "Четыре танкиста и собака". **16.15** Док. фильм. **17.10** Телефильм. **17.30** "Напевы земли белорусской". **18.00** Сериал "Сити". **18.44** МСН. **19.15** Ток-шоу "Будни". **20.00** "Все мои дети". **20.47** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Худ. фильм "Точка отсчета". **23.25** "Музыка без границ". **0.05** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Новости. **8.15** "Вавилонская башня". **9.15** Здоровье. **9.45** Колесо истории. **10.30** "Компьютерные войны". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультсериал. **14.40** Царь горы. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.45** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** Худ. фильм "Хищники". **19.15** Жди меня. **20.00** Время. **20.45** "Полная безопасность". **21.40** Звезда по имени Солнце. 10 лет спустя. **22.10** В.Цой и группа "Кино". 5 мая 1990 года. **23.35** "К востоку от рая". **0.40** "Затерянные на земле".

**РТР**

**7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.30** Семейные новости. **7.40, 8.20** Доброе утро, Россия. **8.15** Черным по белому. **8.35** Мультсериал. **9.00** "Мануэла". **10.35** "Санта-Барбара". **16.30** "Сам себе режиссер". **17.00** "Графиня де Монсоро". **18.00** "Комиссар Рекс". **19.30** Дежурная часть. **19.50** "История любви". **22.00** "Следствие ведут знатоки". **23.55** Мелодрама "Улица Канареек".

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Кочубей". Худ. фильм. **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Вместе с Фафалей. **14.20** "Красная книга". **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.45** Кто мы? **16.10** Серебряный век.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Телесериал. **8.50** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.15** "Идеальное преступление". Драма. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.15** Мультфильм. **17.30** "Путешественники во времени". Док. сериал. **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.00** Бобруйский вариант. **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Только ты". Телесериал. **21.45** Астро-дайджест. **21.50** "Мужчина как женщина". Комедия.

## СРЕДА, 16 августа

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 0.00** Новости. **8.15** "Сегодня с вами". **8.40** Потребительская корзина. **9.10** Мультфильмы. **9.35** "Око". **9.55** Компьютерный полигон. **10.15** Столичный хит. **11.15** "Все мои дети". **12.00** Ток-шоу "Будни". **12.45** "Ворон". Киноочерк. **13.15** Видимо-невидимо. **15.13** "Четыре танкиста и собака". **16.05** Мультфильм. **16.25** "Банановый остров". **17.10** Док. фильм. **17.30** "Макаенка,9". **18.00** Сериал "Сити". **18.44** МСН. **19.15** Лотерея "Толока". **19.25** "Наши песни". **19.55** "Все мои дети". **20.42** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Комедия. "Паспорт". **23.30** Королевская охота. **0.10** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25** Новости. **8.15** "Вавилонская башня". **9.15** Пока все дома. **9.50** Жди меня. **10.30** "Компьютерные войны". **13.30** "Вместе". **14.20** Мультсериал. **14.40** Зов джунглей. **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.45** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** Диагноз для Чикатило. **17.50** Футбол. Сборная России — сборная Израиля. В перерыве: **18.50** Греко-римская борьба. **20.00** Время. **20.45** "Полная безопасность". **21.40** "Как стать Наполеоном". **22.40** "Цивилизация". **23.10** "К востоку от рая". **23.55** "Затерянные на земле".

**РТР**

**7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.30** Семейные новости. **7.40, 8.20** Доброе утро, Россия. **8.15** Черным по белому. **8.35** Мультсериал. **9.00** "Мануэла". **10.35** "Санта-Барбара". **16.30** "Сам себе режиссер". **17.00** "Графиня де Монсоро". **18.00** "Комиссар Рекс". **19.30** Дежурная часть. **19.50** "История любви". **22.00** "Следствие ведут знатоки". **0.05** Прикл. фильм "Африканский лев".

**КУЛЬТУРА**

**11.30,13.30** Новости культуры. **11.40** "Веселые Расплюевские дни". Худ. фильм. **13.05** "Красная книга". **13.45** "Жил-был хомяк". **14.10** Вместе с Фафалей. **14.20** Мультфильмы. **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.45** Кто мы? **16.10** Серебряный век.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Телесериал. **8.50** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.15** "Мужчина как женщина". Комедия. **16.30** "Таггерт". Телесериал. **17.20** "Железный фактор". **17.55** "Праздник в Вашем доме". **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **20.00** "Праздник в Вашем доме". **21.00** "Только ты". **21.50** Астро-дайджест. **21.55** Спорт планеты.

## ЧЕТВЕРГ, 17 августа

**БТ**

**6.30, 7.10** Доброе утро, Беларусь! **7.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00, 19.00, 23.25** Новости. **8.15** "Цена победы". Док. фильм. **8.40** Потребительская корзина. **9.10** Королевская охота. **9.40** Док. фильм. **9.55** Мультиклуб. **10.25** Дом кино. **11.15** "Все мои дети". **12.00** "Наши песни". **12.30** Док. фильм. **13.15** Комедия "Покровские ворота". **14.27** "Дикая природа". **15.10** "Четыре танкиста и собака". **16.07** V Международный фестиваль православных песнопений. **17.10** Арсенал. **17.35** Усадьба. **18.00** Сериал "Сити". **18.44** МСН. **19.15** "Премьер-парад". **19.40** "Купаловцы: взгляд сквозь время". **19.55** "Все мои дети". **20.42** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.35** Событие. **21.50** Худ. фильм. "Из жизни отдыхающих". **23.10** "Крок". **23.35** Криминальная хроника.

**ОРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.25, 23.25** Новости. **8.15** "Вавилонская башня". **9.15** Смехопанорама. **9.50** Человек и закон. **10.30** "Компьютерные войны". Закл. серия. **13.30** "Вместе". **14.15** Мультсериал. **14.40** "100%". **15.10** ...До шестнадцати и старше. **15.45** Вкусные истории. **15.55** "Вавилонская башня". **17.30** "Каламбур". **18.00** Комедия "Нежный полицейский". **20.00** Время. **20.45** "Полная безопасность". **21.40** "Как быть Наполеоном". **22.40** "Собрание заблуждений". **23.10** "К востоку от рая". **0.05** "Затерянный на земле".

**РТР**

**7.00, 8.00, 10.00, 16.00, 19.00** Вести. **7.30** Семейные новости. **7.40, 8.20** Доброе утро, Россия. **8.15** Черным по белому. **8.35** Мультсериал. **9.00** "Мануэла". **10.35** "Санта-Барбара". **16.30** "Сам себе режиссер". **17.00** "Графиня де Монсоро". **18.00** "Комиссар Рекс". **19.30** Дежурная часть. **19.50** "История любви". **22.00** "Следствие ведут знатоки". **23.45** "Театр+ТВ". О.Табаков.

**КУЛЬТУРА**

**11.30, 13.30** Новости культуры. **11.40** "Хотите — верьте, хотите — нет". Худ. фильм. **12.45** "Красная книга". **13.45** Жил-был хомяк". **14.10** Вместе с Фафалей. **14.20** Мультфильмы. **14.40** Телеэнциклопедия. **15.00** Новости. **15.10** Мультфильмы. **15.45** Кто мы? **16.[illegible]** "Бабочка". В.Набоков.

**"МОГИЛЕВ-1"**

**6.30, 7.10** "Ранехонько!" **7.00** "Навіны раніцы". **8.05** "Саманта". Телесериал. **8.50** "Сейлормун снова с нами". Мультсериал. **9.15** "Леди Макбет Мценского уезда". Худ. фильм. **16.30** "Из жизни женщин". **17.00** Ток-шоу "Я сама". **18.00, 20.00** "Праздник в Вашем доме". **18.50** Мультфильм. **19.00** "Откровенно...". **19.20** Телемагазин. **19.30** День области. **21.00** "Только ты". **21.45** Астро-дайджест. **21.50** "Незримый путешественник". Драма. **23.15** "Сверхнаука". Док. сериал.



---

### ВАЛОСАВІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 65
***(цэнтр — в.Валосавічы, дзіцяча-юнацкая спартыўная школа)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Валосавічы, Цейкавічы, Суянец.

### ПАЦАВА-СЛАБОДСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 66
***(цэнтр — в.Пацава Слабада, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Пацава Слабада, Каладзіно, Красніца, Малінаўка, Падказулічча, Падлессе, Ляскі, Узнога.

### КАЗУЛІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 67
***(цэнтр — в.Казулічы, сельскі клуб)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Казулічы, Кострыцкая Слабодка.

### СТАЎПІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 68
***(цэнтр — в. Стаўпішчы, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Стаўпішчы, Падрэчча.

### ЛЮБОНІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 69
***(цэнтр — в.Любонічы, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Любонічы, Сяргеевічы, Ігнацоўка.

### УЛАСАВІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 70
***(цэнтр — в. Уласавічы, лясніцтва)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Уласавічы, Гута, Кострычы, Курганы, Морхавічы.

### ПАЎЛАВІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 71
***(цэнтр — в.Паўлавічы, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Паўлавічы, Зарубін Вугал, Машок, Нандаткі, Старыя Дваранінавічы, Новыя Дваранінавічы, Полькавічы, Селіца, Шырокае, Шпілеўшчына, Юзафін.

### БАРСУКОЎСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 72
***(цэнтр — в. Барсукі, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Барсукі, Хімарадзь, Дзесяціны, Падвішанне, Вішанька, Ізабеліна, Лешчанка, Падлешчанка.

### ДОБАСНЕНСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 73
***(цэнтр — в. Старая Добасна, сярэдняя школа)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Старая Добасна, Новая Добасна, Пясцова, Харлапавічы, Вазнясенск, Лёўкавічы, Рог, Вінаградаўка.

### ЖЫЛІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 74
***(цэнтр — п.Жылічы, Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць: пасёлак Жылічы, вёскі Няптун, Баркі, Капачоўка, Жылічы, Дубавое, Чырвоная Гара, Чырвоны Беражок, Пархімкавічы, Скубяціна.

### ДАБРЫЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 75
***(цэнтр — в.Дабрыца, сельскі клуб)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Дабрыца, Барсукі, Даброціна, Асаўнік, Пражэктар, п.Ясны.

### БАРЧЫЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 76
***(цэнтр — в. Барчыцы, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Барчыцы, Глыбокавічы.

### БАРАВІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 77
***(цэнтр — в.Баравіца, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Баравіца, Рогаўка, Віленка, Негаўля, Мазураўка.

### СКАЧКОЎСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 78
***(цэнтр — п.Скачок, кантора цэха дрэваапрацоўкі)***

У састаў участка ўваходзяць пасёлак Скачок, вёскі Бераснёўка, Новы Гарадок.

### ГАРАДЗЕЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 79
***(цэнтр — в.Гарадзец, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Гарадзец, Зеляніца, Стража, Каршукі, Рудня.

### АЛЯНСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 80
***(цэнтр — в. Ала, фельчарска-акушэрскі пункт)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Ала, Вілы, Выжары, Ахоцічы, Багданаўка.

### СКРЫПЛІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 81
***(цэнтр — в. Скрыпліца, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Скрыпліца, Камарава.

### КАПУСЦІНСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 82
***(цэнтр — в. Капусціна, базавая школа)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Капусціна, Віктараўка, Вязаўка.

### ХВАЙНІЦКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 83
***(цэнтр — в. Хвайніца, базавая школа)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Хвайніца, Забуднянскія Хутары, Новае Заліцвінне, Самадумаўка, Старое Заліцвінне.

### СТАЙКАЎСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 84
***(цэнтр — в. Стайкі, сельскі клуб)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Стайкі, Веленка, Галынаўка, Зялёная Рошча, Прыбар, Сяліба, Чарабамір, Шмакі.

### ПАДСЕЛЬСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 85
***(цэнтр — в. Падсёлы, базавая школа)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Падсёлы, Дубцы.

### ЧЫГІРЫНСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 86
***(цэнтр — в. Чыгірынка, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Чыгірынка, Падліпкі, Нямкі, Гогаль, Колбава, Падлужжа.

### ШАЛАЁЎСКІ ЎЧАСТАК ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ № 87
***(цэнтр — в. Шалаёўка, сельскі Дом культуры)***

У састаў участка ўваходзяць вёскі Шалаёўка, Боркі, Грыбавец, Грыбава Слабада, Збышын, Пільнікі, Стары Юзін, п. Грыбавецкае лясніцтва.

**Старшыня раённага выканаўчага камітэта А.С.Сцяпанчанка.**
**Кіраўнік справамі раённага выканаўчага камітэта А.М.Леановіч.**

## Примите поздравления!



г.п.Кировск,
ул. Советская,63,
**ОЛЬГЕ ЕВДОКИМОВНЕ АЛЬШЕВСКОЙ**

**Дорогая мамочка, любимая бабушка и прабабушка!**

***Сердечно поздравляем тебя, наша родная, с днем рождения.***

*Милая, родная,*
*как тебя мы любим,*
*Руки твои нежные,*
*добрые глаза,*
*С нежностью сегодня*
*мы тебя целуем,*
*Ведь словами это*
*выразить нельзя.*
*Ты ведь понимаешь —*
*всякое бывает,*
*Ссоры и обиды,*
*разные слова,*
*Но любовь все это*
*все же побеждает*
*И, конечно, милая,*
*ты всегда права.*
*Время нашей жизни*
*календарь листает,*
*Снова за закатом*
*следует рассвет,*
*Пусть же этот праздник*
*вновь тебе прибавит*
*Много добрых, милых*
*и счастливых лет.*

**Дети, внуки, правнуки.**

г.п.Кировск,
ул.Пушкина, 9-а,
**ГАЛИНЕ ИВАНОВНЕ ИВАНИЦКОЙ**

**Уважаемая Галина Ивановна!**

***Сердечно поздравляем с юбилеем.***

*Пусть будет все,*
*как ты захочешь,*
*Достаток в доме и покой,*
*Счастливой будь ты*
*и здоровой,*
*И оставайся молодой.*
*Листай страницы*
*жизни смело,*
*Живи, не замечая зла,*
*Желаем мы, чтоб много*
*ты успела,*
*Не забывай, что жизнь*
*всего одна.*

**Коллектив работников Жиличского филиала райпо.**

д. Стража,
ул.Петрусевича,3,
**КЛАВДИИ АФАНАСЬЕВНЕ РУСЕЦКОЙ**

**Дорогая и любимая мама, бабушка!**

***Прими, наша родная, наилучшие пожелания с днем рождения.***

*Милая, родная, как тебя*
*мы любим,*
*Руки твои нежные,*
*добрые глаза,*
*С нежностью сегодня*
*мы тебя целуем,*
*Ведь словами это*
*выразить нельзя.*
*Время нашей жизни*
*календарь листает,*
*Снова за закатом*
*следует рассвет,*
*Пусть же этот праздник*
*вновь тебе прибавит*
*Много добрых, милых.*
*и счастливых лет.*

**Дети, внуки.**

д.Левковичи,
**СЕРГЕЮ ВАЛЕНТИНОВИЧУ МИХНЕВУ**

**Дорогой Сережа!**

***Поздравляем тебя с днем рождения.***

*Пусть все твои*
*сбываются мечты,*
*Надежды и заветные*
*желанья,*
*И в этот день,*
*пожалуйста, прими*
*Одно из лучших пожеланий.*
*Мы хотим, чтоб*
*жизнь твоя была*
*Чиста, светла,*
*избавлена от зла,*
*Удачи тебе,*
*радости, успеха,*
*Здоровым быть,*
*беды не знать,*
*Преграды в жизни и помехи*
*Легко и быстро устранять.*

**Папа, мама, Таня, Наташа, Володя, Аня.**

г.п.Кировск,
Дом творчества,
**МАРИИ ТИМОФЕЕВНЕ НАУМОВИЧ**

**Уважаемая Мария Тимофеевна!**

***Сердечно поздравляем Вас с юбилеем.***

*Пусть эта*
*знаменательная дата,*
*В душе оставит*
*только добрый след,*
*Желаем мы всего,*
*чем жизнь богата:*
*Здоровья, счастья,*
*долгих лет.*
*Пусть сердце старости*
*не поддается,*
*И не страшат*
*летящие года,*
*Пусть счастливо*
*и радостно живется,*
*И пусть здоровье*
*не подводит никогда.*

**Семьи В.Ф.Козлова и А.И.Белявской.**



## Спадчына

# "ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ"

Пад такім дэвізам сёлета ў раёне праходзіць фестываль "Абрады Кіраўшчыны". Яго мэта — узнаўленне ў першапачатковым выглядзе бытавых, святочных народных абрадаў, каб паказаць маладому пакаленню ўсю іх прыгажосць, урачыстасць і значнасць, даць другое жыццё.

Праводзіцца фестываль у некалькі тураў, а яго арганізатарам стаў раённы арганізацыйна-метадычны цэнтр аддзела культуры, узначальваемы М.А.Акуліч.

У сакавіку адбыўся першы тур. Праходзіў ён у Жылічах. Тут у бальнай зале былога палаца пана Булгака фальклорным калектывам Добасненскага сельскага Дома культуры (дырэктар Г.В.Пінчук) быў паказаны передвясельны абрад "Каравайніца" ці "Зборная субота". Гэта ўрачысты абрад выпечкі вясельнага караваю. Фальклорны калектыў Барчыцкага сельскага Дома культуры (дырэктар А.В.Шакарава) паказаў наступны эпізод вялікага вясельнага абрада, які называецца "На пасад".

Як і было вызначана ўмовамі фестывалю, абрады паказваліся з мінімумам тэатралізацыі, максімальна прыбліжана да рэальнага. Уключалі яны не толькі нейкае пэўнае дзеянне, але і адпаведныя моманту песні, беларускія народныя танцы, прымаўкі, пажаданні і наказы. Адметна, што насуперак існуючаму меркаванню, маўляў, моладзі ўсё гэта нецікава і не патрэбна, у глядзельнай зале сабралася шмат людзей і пераважная большасць іх (каля 80 працэнтаў) былі навучэнцы сельгаскаледжа.

Глядзелі з вялікай цікавасцю, і пасля аб'яўленага перапынку для змены дэкарацый усе зноў сабраліся ў зале. Значыць, паказаныя абрады, наша спадчына не пакінулі юнакоў і дзяўчат абыякавымі, закранулі ў іх душах патаемныя спрадвечныя стрункі. А гэта, уласна, і было мэтай наладжанага ў межах раённага фестывалю прадстаўлення.

Яго другі тур прайшоў на базе Стайкаўскага сельскага Дома культуры. Сіламі мясцовых самадзейных артыстаў і ўдзельнікаў фальклорнага калектыву пад кіраўніцтвам дырэктара СДК Н.А.Волкавай быў паказаны абрад "Хрэсьбіны". Варта адзначыць, што да ўдзелу ў праграме былі прыцягнуты мужчыны, выканаўшыя ролі бацькі, кума, гасцей на хрэсьбінах. Усё дзеянне праходзіла з вялікім энтузіязмам, было паказана шмат танцаў, гучалі абрадавыя песні. І зноў жа сярод гледачоў больш палавіны прадстаўлялі моладзь і дзятва.

Трэці тур фестывалю пройдзе ў лістападзе, зноў жа ў Жылічах. Мяркуецца выступленне фальклорных калектываў "Спадчына" Любоніцкага СДК, Казуліцкага і Сяргеевіцкага сельскіх клубаў, Стаўпіцкага і Пацава-Слабадскога сельскіх Дамоў культуры.

Па выніках усіх трох тураў лепшыя калектывы і паказаныя імі абрады будуць зняты на відэа абласным метадычным цэнтрам для распаўсюджвання вопыту адраджэння беларускай нацыянальнай спадчыны ў іншых раёнах вобласці.

**Таццяна МАІСЕЕНКА.**





***Зараз у працаўнікоў калгаса імя Кірава шмат клопатаў: убраць без страт вырашчаны ўраджай, нарыхтаваць як мага больш кармоў для грамадскага пагалоўя жывёлы, прывесці ў належны парадак палі, ды і восеньская сяўба азімых культур не за гарамі. Добра разумеюць клопаты сваіх бацькоў хлопцы і дзяўчаты, таму ў час летніх канікулаў дапамагаюць дарослым давесці да ладу намалочанае.***

***Старанна працуюць на таку Павел Аўчыннікаў, Сцяпан Васілеўскі, Ганна Белазор (на здымку), Людміла Лугін, Валянціна Глушакова.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## Гумарэска

# ВОСЬ ДЫК ПАРОДА!



Каго не сустрэнеш зараз на калгасным рынку! Гандлююць людзі розных узростаў і прафесій. Толькі сваіх знаёмых у мінулы выхадны налічыў дзесятка паўтара: адны з іх гандлююць малаком, тварагом, іншыя — бульбай "маладой", агурочкамі. Падлеткі, дык тыя больш ягадамі ды грыбамі прытаргоўваюць.

Вырашыў і я падзарабіць. Прывёз на рынак цэлы кошык яек. Запрасіў цану: 500 рублёў за дзесятак. Хутка з'явіліся і першыя пакупнікі. Вось ужо прадаў дзесятак, другі. Адны бяруць, нават не таргуюцца, іншыя просяць цану збавіць. Трэціх зацікавіла, як доўга я збіраў яйкі: у кашы іх было дзесьці сотні тры. У жартаўлівай форме я адказаў, што родзічы прывезлі мне новую пароду курэй. Вось мае "Белыя новазеландскія" нясуцца двойчы на дзень. Многіх зацікавіла навіна, некаторыя нават запісалі назву гэтай пароды. Не ведаю, што дапамагло: ці новая парода, ці тое, што на рынку ў той дзень яек было не надта многа, я свой кошык распрадаў гадзіны за паўтары. А на самой справе такой пароды курэй у прыродзе не існуе. "Белыя новазеландскія" бываюць толькі трусы. Але гэта я толькі вам, паважаныя чытачы, расказваю. Гандлюю яйкамі я на рынку ў Рагачове.

**Міхаіл ПАЛЯКОЎ.**



## У РЭДАКЦЫЮ "КІРАЎЦА"

Вялікае, непамернае гора напаткала нашу сям'ю — памерла дарагая і любімая наша жонка, маці, бабуля, цешча ***Марыя Данілаўна Траццякова.***

Мы вельмі ўдзячныя калектыву работнікаў РВА ЖКГ, родным, сябрам, знаёмым, суседзям, усім добрым людзям, якія аказалі нам маральную і матэрыяльную падтрымку, прыйшлі, каб правесці дарагога нам чалавека ў апошні шлях.

Вялікі Вам дзякуй і нізкі паклон, добрыя людзі.

**З удзячнасцю К.В.Траццякоў, дочкі з сем'ямі.**

* * *

Вялікае, непамернае гора прыйшло ў нашу сям'ю — раптоўна памёр дарагі і любімы наш сыночак, брацік ***Сяргей Аляксандравіч Іваніцкі.***

Без людскога спачування, падтрымкі, суперажывання вельмі цяжка перажыць гора. Мы ўдзячныя ўсім, хто не пакінуў нас у бядзе, хто падтрымаў у цяжкія хвіліны.

Выказваем словы ўдзячнасці калектывам аўтапарка №14, ПМК-255, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага, санаторыя імя К.П.Арлоўскага, рэстарана "Сузор'е", родным, сябрам, знаёмым, суседзям, усім добрым людзям, якія аказалі нам маральную і матэрыяльную падтрымку, прыйшлі, каб правесці ў апошні шлях дарагога сыночка.

Нізкі паклон усім, добрыя людзі! Няхай вашы сем'і абыходзіць бокам бяда і толькі дабро сустракаецца на жыццёвым шляху. Светлых і шчаслівых вам дзён.

**З удзячнасцю і павагай сям'я Іваніцкіх.**

**Сям'я Т.М.Барадзіной** падзяляе вялікае гора **з Таццянай Мікалаеўнай і Рыгорам Васільевічам МІХАЛАПАМІ, іх РОДНЫМІ і БЛІЗКІМІ** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, МУЖА, БАЦЬКІ, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ Сяргея.**

**Сям'я А.А.Бандаровіча** падзяляе гора з сям'ёй **Рыгора Васільевіча МІХАЛАПА** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ.**

**Сям'я А.Ф.Ступака** выказвае глыбокае спачуванне **Рыгору Васільевічу, Таццяне Мікалаеўне МІХАЛАПАМ і іх СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, МУЖА, БАЦЬКІ, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ Сяргея.**

**Сям'я М.І.Лазаковіча** падзяляе вялікае гора з **Рыгорам Васільевічам, Таццянай Мікалаеўнай МІХАЛАПАМІ, іх РОДНЫМІ і БЛІЗКІМІ** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, МУЖА, БАЦЬКІ, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ Сяргея.**

**Сям'я Г.Р.Юркаўца** выказвае глыбокае спачуванне **Рыгору Васільевічу, Таццяне Мікалаеўне МІХАЛАПАМ і іх РОДНЫМ** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, МУЖА, БАЦЬКІ, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ Сяргея.**

**Сям'я М.К.Караткевіча** выказвае глыбокае спачуванне **Рыгору Васільевічу, Таццяне Мікалаеўне МІХАЛАПАМ і іх РОДНЫМ** з выпадку дачаснай смерці **СЫНА, МУЖА, БАЦЬКІ, БРАТА, ДЗЯДЗЬКІ Сяргея.**

**Калектыў работнікаў магазіна "Гаспадарчыя тавары. Мэбля"** выказвае глыбокае спачуванне загадчыцы **Алене Мікалаеўне ВАРОНІЧ і яе СЯМ'І** з выпадку напаткаўшага вялікага гора — смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ.**

**Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ**

*Заснавальнікі:*
*Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,*
*Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,*
*рэдакцыя газеты "Кіравец".*

**Рэгістрацыйны № 285.**
**Падпісана** да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў.*
*Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі.*
*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*
*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж жніўня 2777.*